# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№ 11 (165)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## АДКРЫТЫ ЛІСТ РЭДАКЦЫІ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ "ЗАРА"

**У бешанковіцкай грамадска-палітычнай газеце "Зара" ёсць куча карэспандэнтаў, рэдактар і карэктар. Але загаловак перадавіцы ад 14-га ліпеня там даецца з памылкай: "Паспела чорная парэчка" – значыць, паспела адна ягадка. Трэба пісаць "паспелі чорныя парэчкі".**

З апошніх патугаў у газеце ствараецца бачнасць двухмоўя. Пэўна, на нечы загад перадавы артыкул у газеце Вы "стварылі" па-беларуску. Стварылі з вялікай колькасцю памылак. Гэта ўсё называецца адным словам: "Прыехалі!"

Гульня па правілах аднаго чалавека прывяла нашу мову на мяжу вымірання. З маўклівай згоды ўсяго грамадства. А грамадства – гэта ў тым ліку і карэспандэнты газеты, шмат хто з якіх закончыў ВНУ па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура". Ад Вас сёння залежыць не толькі культура мовы ўсяго нашага грамадства.

Няўжо Вам не баліць, што з Вашае падачы знікае беларускае слова, носьбітам якога былі і Вашыя, калі не бацькі, дык ужо дакладна дзядулі з бабулямі?

Ды, мусіць, не баліць. Але ж хаця б чыста з прафесійнага гледзішча, маглі б Вы зазірнуць разок-другі ў слоўнік?

Мова патрабуе пастаяннай працы над ёй. Што ж Вы будзеце рабіць, калі прэзідэнт краіны ўрэшце зменіцца? Ён жа таксама чалавек. Возьме ды здырдзіцца. Да гэтага ўсё ідзе. А новы беларускі прэзідэнт запатрабуе ў краіне з назвам Рэспубліка Беларусь нечуванае: пісаць у газетах толькі на нацыянальнай мове, то-бок па-беларуску. Тады што, будзеце абкладвацца слоўнікамі і вучыць нялюбую мову?

Які сорам, што Вы, не валодаючы мовай самі, забіраеце ў людзей надзею знайсці роднае слова на старонках газеты, дзе яно жыло дзесяцігоддзямі, яшчэ да пачатку Вашай прафесійнай кар'еры. Які грэх бераце на сваю душу: забіраеце ў людзей магчымасць чуць тое слова, якое нарадзілася і ўзгадавалася на гэтай зямлі. Якое нам, беларусам, даў сам Бог. Якое таптали, вынішчалі столькі стагоддзяў усялякія "старэйшыя браты", але ж не знішчылі. І не знішчаць, нават з Вашае дапамогай.

Вы пішаце: "Кожны дзень на ягадныя палі прывозяць 22 школьніка." Правільна: "Штодзень на ягадніку працуе 22 школьнікі". Назоўнікі мужчынскага роду множнага ліку ў беларускай мове маюць канчаткі - ы, - і: тры яблыкі, тры самалёты, тры танкі, тры піянеры, 22 школьнікі.

"Не кожны наймальнік згодзен браць на працу…". Правільна па-беларуску "згодны". А ваш варыянт – калька з расейскага "согласен". Googlеўскі неадрэдагаваны пераклад.

"Упэўнена, што калі школьнік мае жаданне…". Лепш: "Я ўпэўненая, калі школьнік жадае…(Ты, ён упэўнены; мы, вы, яны упэўненыя).

Далей проста працытую памылковыя словазлучэнні і прывяду правільныя: "пагодных умоў" – па-беларуску будзе "умоў надвор'я", "за кг чорнай парэчкі" – "за кг чорных парэчак", "не ўся ягада прыдатная"– "не ўсе ягады прыдатныя", "будуць замарожаны" – "будуць замарожаныя".

Пра стылістычныя памылкі лепш наогул размову не распачынаць. Іх у маленькіх артыкулах столькі, што кваліфікаваная настаўніца беларускай мовы за сачыненні, падобныя да Вашых, не паставіла б адзнаку вышэй за двойку.

**Г.Станкевіч**

Партал твайго горада: http://beshankovichy.by

НАША ЎЛАДА

## НАЎПРОСТАВЫЯ ЛІНІІ АБО КАНЦЭРТЫ ПА ЗАЯЎКАХ?

**У апошнія гады стала вельмі модным праводзіць наўпроставыя лініі. Пэўна, лічыцца, чым іх больш, тым лепей працуюць начальнікі. Пастараюся ўпэўніць Вас у адваротным.**

Вось адзін малюсенькі прыклад. Там, дзе на дарогу Мінск – Віцебск выходзіць дарога з Старых Ранчыц, колькі гадоў ужо тое скрыжаванне недагледжанае. Як кажуць у народзе, ямка ямкай паганяе. (Ды ў Вас ёсць сотні сваіх падобных прыкладаў.)

Гадоў дзесяць таму я пісаў у арганізацыю, якая абслугоўвае дарогу Мінск – Віцебск. Па законе яна павінна рамантаваць і радыус закруглення, то-бок усе скрыжаванні гэтай дарогі. Тады, пасля майго звароту, яны правялі на скрыжаванні касметычны рамонт. А сёння скрыжаванне зноў патрабуе тэрміновага рамонту.

А чаму мы абавязаны тэлефанаваць з-за таго, што дарогу трэба адрамантаваць? Гэта не прыватная праблема. Гэта праблема бяспекі дарожнага руху. І начальнік той арганізацыі, што абслугоўвае дарогу, ямкі тыя, зразумела, абавязаны бачыць. Калі ён начальнік. І ён, несумненна, бачыць, але дарогу не рамантуе.

Навошта? Яны, тыя ямкі, яму не замінаюць. Вось калі Вы патэлефануеце яму, ці напішаце яму ліст з просьбай, ён трохі падшавеліцца. А так ні-ні.

І гэта злачынны падыход да вырашэння падобных праблем. Бачыць праблему, і нават не падшавяліць пальцам, каб яе вырашыць. А замест гэтага сесці ў крэсла і праводзіць "прамую лінію".

Я не супраць тых ліній. Іх трэба праводзіць, каб выслухаць прыватныя праблемы людзей. Але калі на гэтыя лініі выносяцца грамадскія праблемы, якія мусілі быць даўно вырашанымі без падказкі, такіх начальнікаў трэба гнаць у тры шыі.

Калі старшыня сельскага Савета не ведае, што цэлы год перакуленая кладка праз рэчку, што для трох апошніх вясковых кароваў няма пашы, што за рогам яго сельсавета цэлы месяц ужо ёсць прамоіна ў дарозе, значыць ён аніякі не старшыня. Так, персанальны пенсіянер раённага значэння.

Калі начальнік ДРСУ чакае, што яму патэлефануюць з ніжайшай просьбай прагрэйдараваць даўно не грэйдараваную дарогу, засыпаць тую прамоіну, якой ідзе другі месяц, гэта не начальнік ДРСУ.

Калі іхнія вышэйстаячыя начальнікі ведаюць пра падобных кіраўнікоў і церпяць такі стан справаў, ім трэба даўно падшукваць сабе іншую, спакайнейшую працу.

**Г.Станкевіч**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ПТУШЫНАЯ РАПСОДЫЯ НА ВУЛІЦЫ

**Вы любіце музыку? І птушыныя спевы? Тады Вам трэба тэрмінова завітаць на вуліцу Маладзёжная ў Бешанковічах.**

Штоdo ранак армія чорных птушак ладзіць тут такія канцэрты, што ў мясцовага люду са слабымі нервамі ўздымаецца ціск.

Абітаюць тыя птушкі пераважна ў двух дамах: №23 і ў тым, што ляжыць насупраць дома №4. Птушкі аблюбавалі тыя дамы па адной прычыне: яны жывуць на гарышчах дамоў, бо туды зручна залятаць праз вентыляцыйныя шахты або разбітыя шыбы франтонаў. Птушкі там жывуць, выводзяць птушанят, а шторанак вылятаюць адтуль з гучнай музыкай у пошуках ежы.

Харчуюцца птушкі абы-дзе, але ёсць у іх і "свая" сталоўка паблізу – у кантэйнерах для смецця па гэтай жа вуліцы.

У кватэрах прылеглых дамоў людзі даўно ўжо не рызыкуюць нанач расчыняць вокны, бо а чацвёртай раніцы іх прыдзецца ў пажарным парадку зачыняць, настолькі абуджае тая сімфонія і дзяцей і дарослых.

А яшчэ птушкі бамбардзіруюць сваімі экскрэментамі ўсё навакolle. Скажам, калі Вы прыпаркуеце аўтамабіль блізу гэтых дамоў, не факт, што раніцай Вам не прыйдзецца чысціць яго лабавое шкло і паліраваныя паверхні.

**Г.Станкевіч**

## *ЧАРНІЦЫ*

*Ах, каб ведалі вы, як мне соладка спіцца,*
*калі ранак ружовы скрабецца ў вакно!*
*Але мушу ўставаць, бо паспелі чарніцы,*
*і сястрыца устурыць мяне ўсё адно.*

*Лусту хлеба ў кішэнь, бо пасля прыгадзіцца –*
*трохлітровы бітончык не жартачкі вам!*
*Трошкі зябка плячам, ды сагрэюць чарніцы,*
*крочыць трэба да іх кіламетры са два.*

*Жменя першая сумам на дне адгукнецца,*
*бо ўзнікае пытанне, куды яе дзець:*
*у бітончык, што ротам вялізным смяецца,*
*або ў рот, што з бітонам змаганне вядзе?*

*Слова моднае сёння у нас – "рэферэндум",*
*ды ніхто пра яго ў той час не гаварыў.*
*А таму ў спрэчцы слоў паміж – "можна" і "трэба",*
*рот заўжды рэферэндзіў сабе на карысць.*

*Усё добра было б, калі б не камарэча,*
*што як "мессераў" шыхт атакуе мяне.*
*Ды ад дробязных рэчаў (такіх недарэчных)*
*толькі рупная праца цяпер ахіне.*

*Вось сястра яшчэ збоку ўсё цвеліць і цвеліць:*
*"Што дамоў прынясеш? Ты збірай! Ты ня еш!"*
*Эх, хутчэй бы дахаты! Там цэлік і велік,*
*і ўлюбёныя кніжкі чакаюць мае…*

*Хоць падчас мне здаецца хвіліна гадзінай,*
*ды паўнее бітона пражэрлівы рот.*
*Палавіна пакуль, трэба шчэ палавіна,*
*вось тады я станцую, напэўна, факстрот!*

*А дахаты ідзеш – то ад стомы памерці*
*можаш ты, калі поўны бітон валачэш.*
*А матуля сустрэне, прытуліць да сэрца…*
*Вось і ўсё. А для шчасця што трэба яшчэ?*

***Г.Станкевіч***

ВЫБАРЫ-2015

# АБ ЗБОРЫ ПОДПІСАЎ ШЛЯХАМ ПІКЕТАВАННЯ

**15-га ліпеня Бешанковіцкі райвыканкам прыняў рашэнне № 682 “Аб месцах, забароненых для правядзення пікетаванняў з мэтай збору подпісаў” падчас прэзідэнскай кампаніі 2015 года.**

Адпаведна рашэння № 682 забараняецца правядзенне пікетаванняў на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асоб, прапанаваных для вылучэння кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, на адлегласці бліжэй за 20 метраў ад адміністрацыйных будынкаў райвыканкама, суда, пракуратуры, аддзела ўнутраных спраў райвыканкама.

Бешанковіцкія міліцыянты павінны забяспечыць ахову грамадскага парадку ў месцах збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асоб, прапанаваных для вылучэння кандыдатамі ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, а таксама прымаць меры па прадухіленні збору подпісаў у падтрымку асоб, прапанаваных для вылучэння кандыдатамі, у месцах бліжэй за 20 метраў ад указаных аб’ектаў.

Дадзенае рашэнне ўжо з’явілася на старонках “Зары” і сайце Бешанковіцкага райвыканкаму, дзе працуе адмысловая старонка да гэтай кампаніі

Але, думаецца, гэта малаверагодна, каб хтосьці ў Бешанковічах збіраў подпісы такім чынам.

**А.Тутэйшы**

# ПРАВЯДЗЕННЕ ВЫБАРАЎ – У НАДЗЕЙНЫХ РУКАХ

**21 ліпеня 2015 г. адбылося пасяджэнне прэзідыума Бешанковіцкага раённага Савета дэпутатаў і Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэта, на якім утворана Бешанковіцкая раённая камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 23 ліпеня 2015 адбылося яе арганізацыйнае пасяджэнне.**

Старшынёй Бешанковіцкай раённай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь абраная Журко Ніна Васільеўна, начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама, намеснікам старшыні - Бабоед Святлана Віктараўна, старшыня раённага аб'яднання прафсаюзаў, былы начальнік аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама.

У склад раённай камісіі ўваходзіць абсалютная большасць чыноўнікаў, якія неаднаразова паспяхова праводзілі падобныя мерапрыемствы.

**Г.Станкевіч**

ПРАБЛЕМА ВІЦЕБШЧЫНЫ

# ПРАЦАВАЦЬ ТРЭБА ЎДВАЯ ІНТЭНСІЎНЕЙ!

**23-га ліпеня ў Віцебску на пасяджэнні аблвыканкама разглядаўся блок важных эканамічных пытанняў, у тым ліку ход выканання паказчыкаў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця і выкананне бюджэту вобласці па выніках першага паўгоддзя.**

*"Толькі пры ўмове павелічэння таварнай масы ў два разы можна будзе гаварыць аб рэзультатыўнасці сельска-гаспадарчай вытворчасці, толькі тады Віцебская вобласць зможа быць самадастатковай. Створаныя высокапрадукцыйныя перапрацоўчыя прадпрыемствы цяпер загружаны толькі на 50-52% "*, - сказаў губернатар Віцебскай вобласці Мікалай Шарстнёў і дадаў, што падобная карціна і ў прамысловасці, будаўніцтве.

Леанід Анфімаў, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі, упэўнены, што ў сітуацыі, якая склалася, рэгіёну неабходна перабудоўваць структуру эканомікі, ствараць нешта новае. Відавочна, што калі прадукцыя дзеючых прадпрыемстваў не запатрабаваная, то чакаць ад іх нарошчвання аб'ёмаў неразумна. *"Яны будуць вырабляць прадукцыю на склад. Гэта нікому не дапаможа, а толькі яшчэ больш вымые абаротныя сродкі і загубіць прадпрыемства. Трэба думаць аб новым, перабудоўваць структуру сельскай гаспадаркі, структуру ўсёй эканомікі з улікам умоў, якія склаліся. Неабходна максімальна выкарыстоўваць унікальны прыродны патэнцыял Віцебскай вобласці і эканоміку выбудоўваць на ім, стварыць умовы, каб сюды паваліла плынь турыстаў"*, - падкрэсліў старшыня КДК.

**Алена Ціханава**
**БелТА**

ПРАБЛЕМА ЭКАНОМІКІ

# ВЫТВОРЧАСЦЬ АЎТАТЭХНІКІ УПАЛА

**Аб'ём прамысловай вытворчасці ў Мінску ў студзені-чэрвені 2015 знізіўся на 17,4% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам і склаў 57, 1 трлн рублёў у бягучых цэнах, паведамілі ў галоўным статыстычным упраўленні Мінска.**

У харчовай прамысловасці зніжэнне склала 4,7%, тэкстыльнай і швейнай прамысловасці - 4,7%, вытворчасці скуры, скураных вырабаў і абутку - 27%.

На 14,6% знізіліся аб'ёмы апрацоўкі драўніны і вытворчасці вырабаў з дрэва. На 10% знізілася вытворчасць у металургіі і ў сферы вытворчасці і размеркавання электраэнергіі, газу і вады.

Гумовых і пластмасавых вырабаў выраблена менш на 10,4%, машын і абсталявання - на 35,1%, транспартных сродкаў і абсталявання - на 45,6%, электраабсталявання, электроннага і аптычнага абсталявання - на 8,3%, іншых неметалічных мінеральных прадуктаў - на 7,3%.

Вытворчасць гарэлкі знізілася на 31,3% (1,9 млн дал), грузавых аўтамабіляў - на 60,3% (1.672), трактароў - на 38,1% (14,9 тыс.), аўтобусаў - на 57,2% (302), матацыклаў - на 73,2% (310), халадзільнікаў і маразільнікаў - на 16,4% (408 тыс.), абутку - на 34,9% (607 тыс. пар).

Аб'ёмы вытворчасці выраслі ў фармацыі - на 48,2%. Адзначаны таксама рост вытворчасці натуральнамалочнай прадукцыі - на 4,1% (149 тыс. тон), сыроў - на 32% (1.098 тон), керамічнай пліткі - на 7,6% (8.016 тыс. кв. м), пральных машын - на 25,9% (90,6 тыс.).

**TUT.BY**

КАРУПЦЫЯ

# ГАЛОЎНЫ ШЛЯХ АБАГАЧЭННЯ ЧЫНОЎНІКАЎ

**За 6 месяцаў 2015 следчыя Віцебскай вобласці накіравалі ў суд 27 крымінальных спраў аб карупцыі ў дачыненні да 30 чалавек.**

Самая вялікая колькасць асоб, якія абвінавачваюцца ў такіх злачынствах, былі занятыя ў аграпрамысловым комплексе, распавяла афіцыйны прадстаўнік рэгіянальнага УСК Іна Гарбачова.

59% ад агульнай колькасці накіраваных у суд карупцыйных спраў - крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, 26% - атрыманне хабару, 7,5% - злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, 7,5% - дача хабару. За паўгода агульная сума кампенсаванага ўрону, прычыненага злачынствамі, па завершаных вытворчасцю справах склала больш за 2 млрд рублёў.

**TUT.BY**

ЗЛАЧЫННАСЦЬ

# УЗРОВЕНЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ ЗНІЗІЎСЯ

**У Віцебскай вобласці ў студзені-чэрвені бягучага года на 0,8% знізіўся ўзровень злачыннасці ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, паведамілі карэспандэнту БелТА ў пракуратуры Віцебскай вобласці.**

За 6 месяцаў на тэрыторыі рэгіёну зарэгістравана 5 тыс. 418 злачынстваў, што на 43 злачынствы, або 0,8%, менш, чым было за аналагічны перыяд мінулага года. Узровень злачыннасці на 10 тыс. насельніцтва склаў 45,1 (сярэднерэспубліканскі паказчык - 51).

Скарацілася колькасць рабаванняў (на 9%), крадзяжоў з жылых памяшканняў (на 5%), згонаў аўтатранспарту (на 15,8%), фактаў махлярства (на 60,5%), вымагальніцтва (на 63,8%), кіравання транспартнымі сродкамі ў стане ап'янення (на 33,5%). Паменшала злачынстваў, учыненых пасля ўжывання спіртных напояў, а таксама асобамі, якія маюць судзімасць.

Разам з тым у пракуратуры падкрэслілі, што пытанні барацьбы са злачыннасцю і прафілактыкі правапарушэнняў па-ранейшаму актуальныя і патрабуюць пастаяннай увагі з боку праваахоўнікаў. Тым больш што ў шэрагу раёнаў вобласці крымінагенная абстаноўка застаецца складанай, а ў Сенненскім, Верхнядзвінскім, Докшыцкім, Браслаўскім, Віцебскім раёнах, а таксама горадзе Наваполацку, Першамайскім і Чыгуначным раёнах абласнога цэнтра адбыўся рост злачыннасці.

Высокі ўзровень злачыннасці на 10 тыс. насельніцтва адзначаецца ў Віцебскім - 78,5, Чыгуначным - 69,3, Шумілінскім - 62,2, Дубровенскім - 60,8, Полацкім - 57,6 раёнах. У вобласці значна ўзрасла колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў (з 592 да 708), у тым ліку звязаных з замахам на жыццё і здароўе грамадзян. У прыватнасці, колькасць забойстваў і замахаў на забойства павялічылася на 58,8% (з 19 да 29), больш зарэгістравана цяжкіх цялесных пашкоджанняў (рост з 57 да 69), узрасла колькасць злачынстваў, учыненых падлеткамі.

Пракуратура адзначае, што не ва ўсіх раёнах вобласці забяспечваецца належнае выкананне дэкрэта №18 "Аб дадатковых мерах па дзяржаўнай абароне дзяцей у няўдалых сем'ях" у частцы кампенсацыі абавязанымі асобамі выдаткаў на ўтрыманне дзяцей. У Мёрскім, Пастаўскім, Расонскім, Ушацкім, Шаркаўшчынскім, Шумілінскім, Талачынскім і Верхнядзвінскім раёнах працэнт кампенсацыі значна ніжэй за сярэдне-абласны паказчык (54,4%). Асаблівую трывогу выклікаюць выпадкі гібелі дзяцей ад знешніх фактараў, якія пачасціліся (загінула 18 дзяцей). У гэтай сувязі пракуратура мае намер узмацніць нагляд за выкананнем заканадаўства аб прафілактыцы правапарушэнняў сярод непаўналетніх, захаваннем патрабаванняў дэкрэта №18, папярэджаннем гібелі і траўматызму дзяцей.

**Алена Ціханава**
**БелТА**

## АБ’ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі “Крывінку”, то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.*

ПРАВА ВЫБАРУ

# ВЫБАР НАРОДА, БЕЗ УДЗЕЛУ НАРОДА

**Артыкул 3 Канстытуцыі абвяшчае, што адзінай Крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту Беларусі з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй.**

Якія выдатныя і галоўнае зразумелыя словы! 11 кастрычніка пройдзе знамянальная падзея ў жыцці Рэспублікі Беларусь. Народ, выкарыстоўваючы свае канстытуцыйнае права, абярэ на бліжэйшы 5 гадоў кіраўніка краіны, якому даверыць частку сваіх правоў і паўнамоцтваў. Для гэтага шмат не трэба - трэба проста прыйсці і прагаласаваць. А каб не было сумневаў у выніках выбараў, іх трэба правесці адкрыта і галосна, паводле выбарчага заканадаўства.

Але калі даходзіць да справы, зыходзячы з вопыту назірання за папярэднімі выбарамі (ад фарміравання выбарчых камісій да падліку галасоў), разумееш, не вельмі-то і патрэбен народ для вызначэння вынікаў галасавання.

У камісіі трапляюць «праверанаы байцы», якія ходзяць пад сцягамі лаяльных арганізацый «Белая Русь» і БРСМ, а таксама палітычных арганізацый тыпу Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі ці Аграрнай партыі. Але калі прыгледзецца бліжэй і вывучыць месцы працы чальцоў гэтых партый і арганізацый, то замест спартсменаў, камуністаў і «камсамольцаў» апынецца - «О, цуд!» - працоўны калектыў сярэдняй школы, альбо прамысловага прадпрыемства.

Як правіла, кіруе такой камісіяй альбо дырэктар, альбо яго намеснік, а ў якасці сакратнара кантралёра, каб усё праходзіла як трэба, але толькі не ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, - прадстаўнік мясцовага выканкама.

Падлік галасоў - гэта асобная песня. Здавалася б, прасцей простага ўзяць бюлетэнь выбаршчыка і паказаць усім сябрам камісіі, а таксама назіральнікам, за якога кандыдата чалавек паставіў галачку. З гэтым справіцца любы школьнік, аднак, як паказвае вопыт назірання за выбарамі, з гэтым не могуць справіцца дарослыя людзі, якія часта вучаць тых жа школьнікаў.

Вось і думаеш, чаму яны могуць навучыць падрастаючае пакаленне, калі самі не могуць выканаць артыкул Выбарчага кодэкса, дзе гаворыцца аб адкрытасці і галоснасці выбараў. Атрымліваецца, што вучаць ўтоенасці, хітрыкаў, падману? Няма! Няма! І яшчэ раз няма!

Кожны член камісіі лічыць свае бюлетэні і раскладвае іх па стосах, а затым шэптам або паперкай паведамляе старшыні камісіі свае вынікі (чамусьці заўсёды шэптам і заўсёды індывідуальна). Старшыня камісіі запісвае іх, а затым разам з сакратаром, які часцей за ўсё аказваецца кантралёрам ад выканкама, сумірующь і абвяшчаюць вынік выбараў на ўчастку! Колькі ж людзей за каго прагаласавала, не ведаюць ні назіральнікі, ні, як ні дзіўна, шараговыя сябры камісіі ...

Як з гэтым змагацца? Кожнаму з нас трэба зрабіць першы крок - стаць назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах ад кампаніі назірання «Правы выбару-2015». Толькі разам можна змяніць гэтую заганную сістэму і зрабіць так, каб выбар народа ніхто не змог выкрасці.

**Алесь Сілкоў**




НАША ЎЛАДА

# ДЕПАРДЬЕ КАК ПРИГОВОР

**Нет, это не шутка. Президент Беларуси приглашает известного французского актера, чтобы поговорить о сельском хозяйстве и научить косить траву.**

Если честно, мне сложно понять мотивы обоих участников этого загадочного действа. Пиар? Так ладно бы французского гостя сводили в театр и познакомили с лучшими образцами белорусского искусства. Любимый многими актер потом прилюдно бы восхитился, СМИ радостно написали, электорат поставил бы галочку в списке "уважаемых" друзей руководителя.

Но нет. Депардье зачем-то тащат (или он сам туда тащится) в коровник, где восхищается бабами и молоком. А на закуску получает мастер-класс "навыков ручной косьбы" от президента.

Зачем это нужно Депардье и главное — зачем это нужно Александру Лукашенко, у которого на носу очередные выборы, для меня загадка. Неужто Депардье в коровнике и с косой — это хорошая иллюстрация достижений белорусского лидера? Или в стране, кото-рую сотрясает серьезнейший кризис, нет сейчас более важных проблем чем научить экстравагантного актера косьбе? На месте министра сельского хозяйства я бы, кстати, напряглась…

Хотя последние сообщения с политических полей, все больше напоминают какое-то затянувшееся 1 апреля. Вспомнить хотя бы недавний прием вице-президента Зимбабве по прозвищу «Крокодил», с которым глава Беларуси собрался всесторонне сотрудничать.

В общем, с чувством юмора у властей, похоже, все в порядке. Хотелось бы оценить и остальные навыки. А то еще немножко — и Депардье с косой станет приговором для белорусской экономики.

**Светлана Метёлкина**




НАШЫ МІЛЬЯНЕРЫ

# НА ЧЫМ ЗАРАБЛЯЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ МІЛЬЯНЕРЫ?

**Плынь турыстаў, якія прыязджаюць на адпачынак у Беларусь, змялела праз крызіс у Расіі. Аднак патэнцыял «цуду некранутай прыроды» застаецца вялікім. Яго спрабуюць выкарыстоўваць беларускія мільянеры. Якія праекты яны рэалізуюць і колькі плацяць у бюджэт за арэнду лясоў і азёр?**

**Возера Машэнскага**

Вось ужо некалькі гадоў жыхары Брэста наракаюць, што не могуць адпачыць на сваім любым Белым возеры. На вадаём, які знаходзіцца за 35 км ад абласнога цэнтра, іх не пускаюць ахоўнікі: маўляў, прыватная тэрыторыя.

Зямлёй карыстаецца самы вядомы брэсцкі бізнэсмен — Аляксандр Машэнскі, уласнік рыбнага «Санта-Брэмара» і малочнага «Савушкавага прадукту».

Яшчэ ў 1990-я гэтыя 2,5 гектара водаахоўнай зоны Белага возера атрымала Брэсцкая райспажыўкааперацыя, аднак у 2008 годзе перапрадала яе Машэнскаму, які вырашыў заняцца турыстычным бізнэсам.

Непадалёку ад возера ён пабудаваў люксавую базу адпачынку «Шале Грынвуд» (можна перакласці як «сельскі домік у швейцарскім стылі, пабудаваны ў зялёным лесе»). Гэта два дзясяткі гатэльных нумароў, а таксама рэстаран італьянскай кухні і лазня. За начоўку гаспадары просяць нямала — $ 80. Аднак госці застаюцца задаволенымі. У папулярным інтэрнэт-каталогу гатэляў booking.com «Шале Грынвуд» мае адзнаку 9,4 па 10-бальнай сістэме.

Машэнскі наракаў, што яму давялося ўкласці шмат грошай у інфраструктуру. Аднак умовы, на якіх ён летась атрымаў у арэнду яшчэ 8,5 гектара зямлі, выглядаюць звышвыгаднымі. За велізарны абшар лесу з выхадам да возера бізнэсмен плаціць… каля $ 110 на месяц. Дамова арэнды заключаная на 100 гадоў у беларускіх рублях, таму чынам, інфляцыя патрохі з'ядае і гэтыя грошы.

**Яхт-клуб Тапузідзіса**

Грэк Павел Тапузідзіс, які нарадзіўся ў Грузіі, таксама аблюбаваў беларускія азёры.

У канцы 2000-х ён узяўся пабудаваць аздараўленчы комплекс на возеры Мядзел, суседнім з Нараччу. Аднак у выніку атрымалася толькі нешта падобнае на прыватную рэзідэнцыю. Адпачыць звычайнаму турысту на турыстычнай базе Тапузідзіса не ўдасца. За 90 сотак, адведзеных для будаўніцтва, кампанія «Тытунь-Інвест» штогод плаціць за зямлю «,87 USD». Акурат так, з коскай на пачатку.

Затое іншы турыстычны аб'ект Тапузідзіса, гатэль «Робінсан Клаб» на беразе Мінскага мора (Заслаўскага вадасховішча), адкрыты для наведнікаў з 2011 года. Напрыклад, тут звычайна спыняецца футбольная зборная Беларусі.

Пракат яхт, катараў і нават верталётаў — такі набор забавак знойдзецца мала дзе ў Беларусі. А яшчэ ў «Робінсан Клабе» ёсць свая канцэртная пляцоўка.

Тапузідзіс арандуе зямлю, каля 10 гектараў, на традыцыйныя 99 гадоў. І плаціць нямала — больш за $ 18 тысяч у год, прычым у валюце.

**Гарналыжны курорт Чыжа**

Гарналыжны комплекс «Лагойск», які належыць самаму багатаму беларускаму бізнэсмену Юрыю Чыжу, адкрыўся дзесяць гадоў таму. «Лукашэнка катаўся на лыжах у расійскай Краснай Паляне і літаральна загарэўся ідэяй стварэння такога цэнтра ў нас. Сказаў мне: «Юра, там мне аўстрыйцы ўвесь час мазгі дураць наконт будаўніцтва ў Лагойску гары, з'ездзіў бы ты, паглядзеў на тыя месцы і прыкінуў, што там можна зрабіць». Я прыкінуў іх моцныя і слабыя бакі, каб чужых памылак не паўтараць, а калі саспеў канчаткова, сказаў прэзідэнту, што «Трайпл» за гэта возьмецца. Прэзідэнту мае довады здаліся пераканаўчымі, і ён даў дабро», — расказваў Чыж гісторыю стварэння «Лагойска». У склад комплексу ўваходзяць гатэль і рэстаран.

Цікава, што за зямлю Чыж не плаціць. Распараджэннем Аляксандра Лукашэнкі бізнэсмен атрымаў 50 гектараў у пастаяннае карыстанне.

Іншае рашэнне кіраўніка дзяржавы датычылася будоўлі на малой радзіме мільянера, каля вёскі Сабалі Бярозаўскага раёна.

Паводле ўказа, «турыстычны культурна-этнаграфічны комплекс «Наш родны кут Сабалі» меўся быць дабудаваным у 2015 годзе. Пад будоўлю Чыжу выдзялялася 333,4 гектара зямлі.

Аднак замоўленым тэмпам працы мільянер пакуль што не дае рады. Створаная ім кампанія «Буслоўка» арандавала ўсяго каля 10 гектараў (штогадовая плата — каля 22 мільёнаў рублёў). У полі відаць толькі запраўку ды некалькі хатак.

**Паляванне Шакуціна**

Чым можа пахваліцца Аляксандр Шакуцін, дык гэта самым статусным кіраўніком свайго турыстычнага бізнэсу. Сёлета кампанію «Шантэр» (расшыфроўваецца як «Шыкоўны Адпачынак На ТЭрыторыі Радзімы») узначаліла Наталля Пяткевіч, былая памочніца Аляксандра Лукашэнкі.

Кампанія аб'яднала некалькі турыстычных аб'ектаў, раскіданых па ўсёй краіне. Шакуціну і яго бізнэс-партнёрам належаць база адпачынку «Рудакова» на Нарачы (дарэчы, побач з рэзідэнцыяй Тапузідзіса), санаторый «Пралеска» пад Мінскам і дзіцячы лагер «Даманава» ў Маладзечанскім раёне. Гэтыя аб'екты знаходзяцца на балансе «Амкадора» ўжо даўно.

А вось апошнім часам Шакуцін і яго навапаліцкі кампаньён Мікалай Варабей спецыялізуюцца на паляванні і рыбалцы. Яны ў роўных долях валодаюць кампаніяй «Інтэрсэрвіс», якая арандуе 58,6 тысячы гектара тэрыторыі заказніка «Красны Бор» ў Верхнядзвінскім і Расонскім раёнах.

Ласі, дзікі, казулі — лік жывёлаў ідзе на сотні. Агучваліся нават планы разводзіць зуброў. Знаходжанне ў гэтым раі для паляўнічага каштуе дорага. Цэны ў мясцовым гатэлі пачынаюцца ад $ 200 за ноч.

Асобная крыніца даходаў — платная рыбалка. Для гэтых мэтаў «Інтэрсэрвіс» арандаваў шэсць азёраў непадалёку ад мяжы з Расіяй.

**Ягор Марціновіч**
**«Наша ніва»**

АБІТУРЫЕНТ – 2015

# ПОСТУПИТЬ НА БЮДЖЕТ, НАБРАВ 71 БАЛЛ

**Последний день приема документов на бюджет — 15 июля — показал, что не всем белорусским вузам хватило студентов. Университеты вынуждены брать даже тех, кто набирает меньше 100 баллов из 400. Особенно низкие проходные баллы в региональных вузах.**

Naviny.by подвели предварительные итоги поступления на бюджет по данным на 15:00 15 июля. После этого часа информация о ходе подачи заявлений не обновляется. В 18:00 приемные комиссии прекратят выдавать документы для подачи на другую специальность, но продолжат принимать у поступающих, которые успели зайти в здание вуза.

**Национальные университеты план, скорее всего, выполнят**

Биологический факультет Белорусского государственного университета заполнит бюджетные места, будут студенты и на платном отделении. К 15 часам было подано 203 заявления, а набрать планируется 156 человек на бюджет и 126 на платную форму. Судя по тому, как складывается конкурс, стать студентом этого факультета можно, набрав не менее 245 баллов.

Наберет бюджетников и исторический факультет — уже подано 124 заявления, а на бюджете 90 мест. Самые высокие баллы у трех абитуриентов — от 371 до 380, самые низкие — от 131 до 140.

Механико-математический факультет, скорее всего, заполнит все места — и платные, и бесплатные: на 200 бюджетных и 10 платных мест претендует 253 абитуриента. Судя по всему, непроходными станут баллы ниже 160.

Почти такая же ситуация на факультетах прикладной математики и информатики, радиофизики и компьютерных технологий.

Самые высокие баллы в БГУ у абитуриентов, которые подали документы на факультет международных отношений. У четырех баллы выше 391. На этом факультете будут заполнены бюджетные места, но платные, вероятнее всего, не все. Например, на специальность «международные отношения, международное право» есть 24 бюджетных и 124 платных места, а заявлений только 64.

Среди естественнонаучных специальностей самые высокие баллы у абитуриентов на химическом факультете — трое набрали выше 391 балла. Столько же у одного поступающего на факультет прикладной математики. Еще один абитуриент, поступающий на бюджет, имеет баллы выше 391 на факультет журналистики.

Впечатляют баллы абитуриентов, поступающих в Белорусский государственный медицинский университет. У двух баллы выше 391, у 21 — от 381 до 390, у 35 — от 371 до 380, у 61 — от 361 до 370. Судя по динамике подачи документов, будут заполнены и бюджетные, и платные места.

В БГУИР заполнены практически все бюджетные места, самый высокий проходной балл сформировался на специальности «экономика электронного бизнеса» (364) и «программное обеспечение информационных технологий» (360).

**Уровень базовой подготовки будущих педагогов катастрофически падает**

Белорусский государственный педагогический университет вновь принимает на некоторые специальности (14 из 28) без вступительных испытаний абитуриентов, окончивших школу с золотой или серебряной медалью, а также тех, кто окончил ссузы с отличием.

В 2014 году такой возможностью воспользовались и подали документы 79 медалистов и отличников. Это в четыре раза больше, чем в 2013-м ранее. В этом году хотят стать педагогами 117 медалистов, но без экзаменов пока только порядка 60.

Судя по активности абитуриентов, бюджетные места будут заполнены, но при этом баллы поступающих порой удручают. Например, на 125 бюджетных мест физико-математического факультета подано 106 заявлений, из которых у одного абитуриент менее 100 баллов, у шести — 111-120, у 12 — 121-130. Только один абитуриент, поступающий на этот факультет, может похвастаться приличной суммой баллов — 361-370.

На факультет начального образования подали документы 172 человека на 105 бюджетных мест, из которых только 35 человек набрали более 200 баллов.

На специальность «логопедия, олигофренопедагогика, сурдопедагогика, тифлопедагогика» высокие баллы (331-340) только у одного абитуриента. Еще двое поступающих на исторический факультет набрали 321-330 баллов.

**В регионах стать студентом еще проще**

Абитуриенты, поступающие в региональные вузы, демонстрируют очень низкий уровень подготовки.

Так в Барановичском университете на инженерном факультете на специальность «информационные системы и технологии» подано больше заявлений, чем есть бюджетных мест (59 против 36). При этом, судя по баллам, студентом можно стать, набрав 145 баллов, а на специальность «экономика и организация производства (машиностроение)» достаточно 120 баллов.

Самые низкие баллы у абитуриентов инженерно-педагогического факультета Мозырского государственного педагогического университета, студентами которого могут стать два абитуриента, набравших 71-80 баллов, пять — 81-90, шесть — 91-100, два — 101-110 баллов. Здесь на 30 бюджетных мест на специальности «профессиональное обучение (строительство)» и «профессиональное обучение (агроинженерия)» подано 18 заявлений. Так что если придет абитуриент с еще меньшими баллами, его примут с распростертыми объятиями.

Кроме того, в университете остались три места на бюджет на «математику и информатику», а также одно место на «русский язык и литературу».

В Гродненском государственном университете на все факультеты, за исключением физико-технического, количество поданных заявлений больше, чем бюджетных мест.

**Читать полностью: http://naviny.by**



РАШЭННЕ САЎМІНА

# НЕ ВЫДЕЛЯТ ДЕНЬГИ НА ПОХОРОНЫ ТУНЕЯДЦЕВ

**Правительство Беларуси утвердило новое положение о порядке выплаты гражданам пособия на погребение и порядке возмещения расходов на погребение специализированной организации.**

Положение утверждено постановлением Совета министров №585, текст которого опубликован на Национальном правовом интернет-портале, и вступило в силу с 12 июля 2015 года.

Согласно документу, пособие выплатят в случае смерти:

— застрахованных граждан,

— граждан, которые не были застрахованы, но в течение не менее десяти лет уплачивали взносы за государственное социальное страхование,

— пенсионеров,

— официально зарегистрированных безработных,

— несовершеннолетних детей граждан, относящихся к вышеперечисленным категориям,

— а также обучающихся — студентов дневной формы обучения.

Госпособие на погребение будет выплачиваться гражданину, который взял на себя организацию похорон. Исключение составляют лица, которые имеют право на возмещение расходов на погребение в соответствии с обязательным страхованием от несчастных случаев на производстве и профзаболеваний. Выплату пособий будут осуществлять местные органы соцзащиты.

Перевод пособия за пределы Беларуси производиться не будет, кроме некоторых исключений.

Положение определяет также порядок выплаты пособия и порядок возмещения расходов на погребение специализированной организации.

Размер пособия представляет собой среднюю заработную плату рабочих и служащих в республике за позапрошлый месяц относительно месяца наступления смерти. В мае 2015 года эта сумма составила 6,5 млн. рублей.

«Прям прет забота в лице самого социально-ориентированного государства в Европе»

Данная новость вызвала бурное обсуждение в Байнэте. Вот что пишут на форуме TUT.BY

«А земельные участки хоть выделят? Или тоже нет?»

«Вот чёта мне кажется, что умершему всё равно, как и что будет с его телом, или чиновники по-другому считают?»

«Капец. Теперь к брошенным младенцам добавятся выброшенные мертвые взрослые. Куда катимся?»

«Прям прет забота в лице самого социально-ориентированного государства в Европе»

«На смертном одре теперь надо звать не священника, а соцработника, что б успел зарегистрировать официально безработным».

«Можно просто складировать сабж под зданием парламента, сами грабли придумали, вот пускай сами этими граблями по лбу и получают»

«Собственно к чему эти полумеры? Запретите продавать еду тем кто официально не работает, отключите свет и воду.Есть только один вопрос: а миллионы безработных уже власть не пугают?А что как они объединятся и начнут безобразничать?»

«И такие вот законно-перлы перед выборами)))))Видно этим хотят поднять процент голосующих за них)))))))))))))))))»

**Марина Светлова**
**http://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.07.2015 у 14.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.